Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!



# БЮЛЯТЭНЬ НАРОДНЫХ КАМІСАРЫЯТАЎ І ЦЭНТРАЛЬНЫХ УСТАНОЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Выдаецца Кіраўніцтвам Спраў СНК і Эканамічнага Савету БССР
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на ½ г. 2 р. 50 к.
VIII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 7 (129) | 31 МАЯ 1932 г. | № 7 (129)

## ЗЬМЕСТ.





## 21. ПАЛАЖЭНЬНЕ

### пра Навукова-Тэхнічны Савет Народнага Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі БССР.

**1. Задачы Навукова-Тэхнічнага Савету.**

1. Навукова-Тэхнічны Савет НК Камунальнай Гаспадаркі БССР:

а) разглядае і вырашае галоўнейшыя тэхніка-эканамічныя пытаньні, зьвязаныя з будаўніцтвам сацыялістычных гарадоў і з грамадзянскім і камунальным будаўніцтвам;

б) ажыцьцяўляе тэхнічную і тэхніка-эканамічную экспэртызу і зацьвярджае праекты сацыялістычных гарадоў, буйных пабудоў і тыпавыя праекты па паказаныму вышэй будаўніцтве;

в) распрацоўвае мерапрыемствы на ўдасканаленьні тэхнікі камунальнай гаспадаркі ў адносінах да тыповых пабудоў, абсталяваньня і правядзеньня будаўнічых работ, а таксама тэхнікі эксплёатацыі камунальных прадпрыемстваў і пабудоў;

г) вырашае пытаньні ў галіне рацыяналізацыі супроцьпажарных мерапрыемстваў;

д) ажыцьцяўляе агульнае кіраўніцтва распрацоўкай тэхнічных норм, утварае мэтадалёгію тэхнічнага нармаваньня, разглядае і зацьвярджае тэхнічныя нормы;

е) кансультуе гаспадарчыя органы НККГ па спэцыяльных тэхнічных і тэхніка-эканамічных пытаньнях.

### II. Структура Навукова-Тэхнічнага Савету.

2. Навукова-Тэхнічны Савет складаецца з Прэзыдыуму і сэкцый.

3. Прэзыдыум Навукова-Тэхнічнага Савету складаецца з Старшыні Савету (Намесьнік Народнага Камісара Камунальнай Гаспадаркі БССР), загадчыкаў сэкцый і вучонага сакратара.

Пры разглядзе пытаньняў, датычных другіх ведамстваў, устаноў і арганізацый, на пасяджэньне Прэзыдыуму НТС запрашаюцца прадстаўнікі апошніх.

4. Сэкцыі складаюцца з груп па асобных спэцыяльнасьцях і сэкцыі ўзначальваюцца загадчыкамі.

Члены НТС могуць быць сталыя, па сумяшчэньні і па асобных запрашаньнях; колькасьць іх вызначаецца Прэзыдыумам НТС у залежнасьці ад абʻёму работ.

5. Старшыня НТС назначаецца Народным Камісарам Камунальнай Гаспадаркі БССР.

Загадчыкі сэкцый назначаюцца Народным Камісарам Камунальнай Гаспадаркі па прадстаўленьні Старшыні НТС.

6. Навукова-тэхнічны Савет падзяляецца на наступныя сэкцыі:

а) пляніроўкі гарадоў,

б) непрамысловага будаўніцтва і будаўнічага кантролю;

в) камунальных пабудоў,

г) будматарыялаў і правядзеньня работ,

д) пажарна-тэхнічную.

### III. Кампэтэнцыя Прэзыдыуму і сэкцый навукова-технічнага Савету.

7. На Старшыню і Прэзыдыум НТС ускладаецца:

а) распрацоўка і ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў па арганізацыі сэкцый НТС і іх апарату, паводле ўказаньняў гэтага палажэньня;

б) агульнае кіраўніцтва працай НТС у цэлым і сэкцый у паасобку;

в) нагляд і кантроль за дзейнасьцю сэкцый,

г) складаньне агульных пэрспэктыўных гадавых і квартальных плянаў работы і справаздач аб дзейнасьці НТС,

д) разгляд, вырашэньне альбо далейшай накіраваньне пытаньняў па абскарджаньні рашэньняў сэкцый, а таксама пытаньняў, якія ўносяцца ў Прэзыдыум сэкцыямі.

8. Уся праца НТС праводзіцца праз сэкцыі. У абавязкі кожнай сэкцыі ўваходзіць агульнае тэхнічнае і тэхніка-эканамічнае вывучэньне, разгляд, а ў адпаведных выпадках і зацьверджаньне пытаньняў, якія датычацца:

**А. Па сэкцыі пляніроўкі гарадоў і насялёных месц:**

а) будаўніцтва, разьвіцьця і рэканструкцыі гарадоў, аграгарадоў, фабрычна-заводзкіх паселішчаў, курортных і дачных месц, іх пляніроўкі і забудоўкі,
б) з'ёмкі сяліцебных плошчаў,
в) пасадкі зялёных насаджэньняў.

**Б. Па сэкцыі непрамысловага будаўніцтва:**

а) жыльлёва-бытавых,
б) грамадзкіх,
в) лекава-санітарных,
г) школьных
д) грамадзкага харчаваньня.

**В. Па сэкцыі камунальных пабудоў.**

а) вадазабясьпечаньня,
б) каналізацыі і вадастокаў,
в) ачысткі ад нячыстот і адкідаў,
г) правядзеньня вуліц і шляхоў,
д) пабудовы мастоў,
е) транспартнага будаўніцтва,
ж) мэліарацыйных, гідратэхнічных і іншых інжынэрных пабудоў і мерапрыемстваў па барацьбе з апоўзьнямі ў зьвязку з дабрабытам і абслугоўваньнем населеных месц;
з) будаўніцтва ў галіне энэргэтыкі населеных месц, у паасобку паліўнай, электрычнай і газавай гаспадаркі,
і) пабудовы лазьняў і пральняў.

**Г. Па сэкцыі будматарыялаў і правядзеньня работ:**

а) разьвіцьця вытворчасьці мясцовых і новых будматарыялаў, у паасобку матарыялаў, якія замяняюць дэфіцытныя;
б) тыпізацыі і стандартызацыі канструкцый і ўкараненьні патаненых канструкцый, прыстасаваных да мясцовых і новых матарыялаў,
в) удасканаленьня мэтадаў работ,
г) арганізацыі падсобных прадпрыемстваў па вытварэньні вырабаў і па мэханізацыі вытворчасьці работ.

**Д, Па пажарна-тэхнічнай сэкцыі.**

а) супроцьпажарнага абсталяваньня інвэнтару і снаражэньня,
б) рацыяналізацыі і вынаходзтва ў галіне пажарнай тэхнікі,
в) норм і стандартаў,
г) эксплёатацыі пажарнай гаспадаркі,
д) аўтаматычнага і хэмічнага агнятушэньня,

е) пажарнай сыгналізацыі,
ж) агнестойкіх саставаў і матарыялаў,
в) супроцьпаветранай абароне.

9. У межах паказаных у арт. 8 пытаньняў на сэкцыі НТС ускладаецца:

а) разгляд і зацьверджаньне тэхнічна-эканамічных заданьняў для праектаў звышлімітнага капітальнага будаўніцтва і тыпавых праектаў;

б) разгляд і зацьверджаньне эскізных і канчатковых (тэхнічных) праектаў звышлімітнага капітальнага будаўніцтва і тыпавых праектаў.

**Увага.** Зацьверджаньне заданьняў і праектаў па пляніроўцы населеных месц ажыцьцяўляецца паводле устаноўленага парадку.

в) кансультацыя і экспэртыза па тэхніка-эканамічных заданьнях і праектах у працэсе іх распрацоўкі праектна-вытворчымі арганізацыямі НК Кам. гаспадаркі, а таксама іншымі ўстановамі па згодзе з апошнімі;

г) кансультацыя, экспэртыза і заключэньне па складаных тэхнічных пытаньнях, якія паступаюць у НТС ад сэктароў Наркамгаса, мясцовых камунальных органаў і іншых ведамстваў;

д) разгляд і ўхваленьне, а ў адпаведных выпадках і зацьверджаньне норм, стандартаў, тэхнічных правіл, умоў і канструкцый і інш. матарыялаў па рэканструкцыі, рацыяналізацыі і тэхнічным рэгуляваньні;

е) разгляд і дача заключэньняў па навукова-дасьледчых працах,

ж) арганізацыя грамадзкага абгаварэньня праектаў буйнейшых пабудоў і найбольш важных тыповых пабудоў;

з) удзел у арганізацыі конкурсаў па распрацоўцы праектаў і разгляд гэтых праектаў;

і) дача заключэньняў па вынаходніцтвах і прапановах, паколькі такія прадназначаны да ажыцьцяўленьня праектна-вытворчымі арганізацыямі Наркамгасу альбо іншых арганізацый па згодзе з апошнімі;

к) удзел у распрацоўцы генэральных і перспэктыўных плянаў і кантрольных лічбаў па адпаведных галінах камунальнай гаспадаркі праз дачу тэхнічных заключэньняў.

**IV. Правы і парадак працы Навукова-тэхнічнага савету.**

10. Усе праекты і іншыя матарыялы, якія падлягаюць разгляду ў НТС, паступаюць праз тэхнічнага сакратара непасрэдна ў сэкцыі Савету па спэцыяльнасьцях, разглядаюцца загадчыкамі сэкцый і, у выпадку неабходнасьці, накіроўваюцца для папярэдняй прапрацоўкі, складаньня заключэньня і дакладу пытаньня на пасяджэньні НТС аднаму альбо некалькім членам НТС альбо асобным экспэртам.

Пытаньні, якія падлягаюць разгляду ў Прэзыдыуме НТС, прадстаўляюцца загадчыкамі сэкцый на распараджэньне Старшыні НТС.

11. Усе пастановы Прэзыдыуму ўступаюць у сілу пасьля падпісаньня пратаколу Старшынёй НТС.

У выпадку нязгоды зацікаўленых устаноў і арганізацый з пастановай НТС, гэтыя ўстановы і арганізацыі ўносяць свае супярэчаньні на разгляд Народнага Камісара Камунальнай Гаспадаркі.

12. Разгледжаныя НТС праекты з пастановамі НТС зварочваюцца прадставіўшым іх установам з адпаведнымі надпісамі НТС аб зацьверджаньні альбо адхіленьні праектаў.

Копіі гэтых праектаў і пастаноў перадаюцца для адпаведнага выкарыстаньня ў адзіны праектны архіў БССР па непрамысловым будаўніцтве.

13. Асобы, якія прымаюць удзел у складаньні праектаў у якасьці аўтараў альбо суўтараў, ня могуць быць экспэртамі па гэтым праэкце.

14. Пры разглядзе найбуйнейшых праектаў Навукова-Тэхнічны. Савет арганізуе, з дазволу Старшыні НТС, грамадзкі прагляд праектаў.

Народны Камісар Камунальнай Гаспадаркі БССР **Аксючыц.**

20 мая 1932 г.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі БССР.

### 22. Пра тыповыя ўзоры штампу, пячаткі і сьцягу для дабравольных пажарных арганізацый.

*Усім раённым і гарадзкім аддзелам камунальнай гаспадаркі.*

Народны Камісарыят Камунальнай Гаспадаркі БССР у адпаведнасьці з арт. 6 нармальнага статуту дабравольнага пажарнага таварыства, зацьверджанага Сакратарыятам ЦВК БССР 11/Х-1931 г. (Бюл. СНК БССР 1931 г., № 21), устанаўляе тыповыя ўзоры штампу, пячаткі і сьцяга для дабравольных пажарных таварыстваў, якія дзейнічаюць па падставе памянёнага нармальнага статуту.

**I. Тыповы ўзор штампу**

Б. С. С. Р.

ПРАЎЛЕНЬНЕ

. . . . . . . дабравольнага

Пажарнага Таварыства

. . . . . . . . . . . . раёну

„. . .". . . . . . . . .19. .г.

№ . . . . .

(паштовы адрас)

**II. Тыповы ўзор пячаткі.**




**Увага:** Пажарныя дружыны ўласнага штампу і пячаткі ня маюць і карыстаюцца імі ад тых прадпрыемстваў ці ўстаноў, пры якіх яны знаходзяцца

### III. Тыповы ўзор сьцягу.

Адзін бок:



Другі бок:




Сьцяг з чырвонай матэрыі разьмерам 90×80 см., абшыты па краёх залатой бахрамой, мае па адным баку: а) лёзунг: „Пралятары ўсіх краін, злучайцеся; б) дзяржаўны гэрб БССР і в) поўную назву арганізацыі.

Для арганізацый узнагароджаных ордэнам „Працоўнага Чырвонага сьцягу", пад рысункам гэрбу вышываецца рысунак ордэну. На адваротным баку сьцягу ёсьць: а) пажарная эмблема—каска, ключ і тапор, б) лёзунг:„ Да абароны сацыялістычнай гаспадаркі—заўсёды гатоў!" і в) год заснаваньня арганізацыі. Дрэўка-драўляная з мэталёвым наканечнікам з пажарнай эмблемай і з 2-ма пазалочанымі шнурамі з кісьцямі. Разьмяшчэньне рысункаў і надпісаў—як паказана на рысунку. Рысункі і надпісы вышываюцца альбо нашываюцца залатымі або жоўтымі басонамі. Літары надпісаў—разьмерам 10 см. у вышыню.

Установлены гэтым абежнікам узор сьцягу пашыраецца таксама на ўсе пажарныя дружыны.

Тыповыя ўзоры штампу, пячаткі і сьцягу, якія ўстаноўлены гэтым абежнікам, зьяўляюцца абавязковымі для ўсіх пажарных арганізацый з дня апублікаваньня гэтага абежніку.

Народны Камісар Камунальнай
Гаспадаркі БССР **Аксючыц.**

Начальнік Кіраўніцтва Пажарнай
Аховы НККГ БССР **Берасьневіч.**

20 красавіка 1932 г.
№ 2.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### 23. Пра вызваленьне ад падаходнага падатку работнікаў папраўна-працоўных установаў БССР.

У адпаведнасьці з зацьверджаным ЦВК і СНК БССР 15 сакавіка 1932 г. статутам службы ў папраўна-працоўных установах БССР, Народны Камісарыят Фінансаў БССР, на падставе арт. 7 палажэньня аб падаходным падатку з прыватных асоб за 2/IX-1930 г., пастанаўляе:

Вызваліць ад падаходнага падатку аперацыйны і адміністрацыйна-гаспадарчы склад у папраўна-працоўных установах БССР, на якіх распаўсюджваецца статут службы ў гэтых установах, зацьверджаны ЦВК і СНК БССР 15 сакавіка 1932 г.

Нам. Народнага Камісара
Фінансаў БССР **В. Ляхаў.**

Кіраўнік Сэктару Масавых
Плацяжоў—Член Калегіі НКФ БССР **Алейнікаў.**

11 мая 1932 г.

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭКАСА БССР. Галоўлітбел 412. Зак. 643. Тыр. 5800.